*Расказы пра механізатараў*

# ЛЮБІМАЯ ПАРА —

Віктар прыпыніў трактар і змахнуў з ілба кропелькі поту. Сонца пякло, як здавалася, якраз у напрамку кабіны. Ён стараўся крыху адхіляцца ад промняў, але яны ўсё роўна даймалі яго, правяраючы тым самым на вытрымку. Хоць бы які ветрык!

Тут проста стаяць сярод траў і то было не з рукі. Вунь, нядаўна прыязджалі нейкія дзецюкі на падводзе, магчыма, даглядчыкі, усклалі некалькі ахапкаў травы і хутчэй у бок ляску, бліжэй да цяньку скіраваліся. Ён толькі шчыра ім пазайздросціў. Але нічога не паробіш. Віктар жа, лічы, усё сваё свядомае жыццё за рулём трактара сядзіць. Праўда, апошнім часам крыху падвяло здароўе. Прычапілася астма, і ён быў вымушаны па парадзе дактароў шукаць больш лёгкую для сябе справу-занятак. Але ж для сапраўднага механізатара няма больш суровага прыгавору чым той, які табе выносяць лекары. Ён, помніцца, доўга сумняваўся ў тым вердыкце, які яму вынеслі. Магчыма ўсё не так дрэнна, як бачыцца, гаварыў дактарам, мо хоць як можна працаваць на трактары. А тыя ўперліся і стаяць на сваім: маўляў, паважаны таварыш, рызыкаваць не варта. Трэба зрабіць перапынак, магчыма ўсё наладзіцца, і тады зноў можна будзе вярнуцца да свайго занятку...

У калгасе заўсёды можна знайсці месца больш-менш спакойнае і не такое адказнае. Вось і прапанавалі Віктару пайсці вартаўніком. Напачатку адмаўляўся, сорамна было ўсё ж. Але яго пераканалі. Ды і адпраўлялі бліжэй да механізатарскай браты – на мехдвор. Пагадзіўшыся, аднак, паставіў умову, што як толькі акрыяе, то абавязкова пяройдзе на трактар, і такую магчымасць яму прадаставяць...

Ці зайздросціў ён хлопцам, якія штодня садзіліся за штурвалы сваіх сталёвых коней і выязджалі са двара па справах? Вядома ж. Але ён цярпліва чакаў. А тут у калгасе пайшлі чуткі, што старшыню мяняць будуць. Анатоль Міхайлавіч Пазднякоў па-свойму цаніў і паважаў Віктара. Ён быў з кагорты тых механізатараў, для якіх двойчы гаварыць не даводзілася. Яны разумелі зпаўслова. Ды і кантраляваць іх работу не даводзілася. Кожнае вытворчае заданне выконвалі так, быццам працавалі на сваіх уласных падворках. Вось гэта і падабалася старшыні. Вядома ж, як толькі Пазднякоў даведаўся аб стане здароўя Віктара, то шчыра паспачуваў яму. А яшчэ паабяцаў, што як толькі той падлечыцца, то абавязкова пасадзіць яго на трактар...

Віктару па вялікаму рахунку, як ён не раз разважаў, было не так важна, хто будзе кіраваць гаспадарчымі справамі. Працаваць за цябе ніхто не будзе. Пазднякоў, лічы, не адзін год аддаў калгасу, ведае кожную ягоную сцяжынку, а тое, што справы апошнім часам не заладзіліся, то ці толькі ў гэтым ягоная віна? Віктар уважліва сочыць за падзеямі, якія развіваюцца ў рэспубліцы, і адчувае, што цяпер жывецца не так лёгка і проста, як гэта было раней. Цяпер трэба лічыць кожную капейку і разлічваць на ўласныя сілы. На дапамогу з боку спадзявацца трэба, але яна не заўсёды прыходзіць да часу. А калі ў калгаснай казне грошай няма, то аб чым размова? Вунь іхні машынна-трактарны парк настолькі абнасіўся, што нават сорамна глядзець. А быў жа некалі час, калі і тэхніку абнаўлялі, і з запчасткамі праблем не было... А дызпаліва ды бензін ніхто не лічыў... Жылі не лепш і не горш, чым тыя за славутым бугром. А цяпер? Не кожны адчаіцца ўзначаліць калгас, у якога акрамя даўгоў у банках нічога няма. Вось толькі людзі. Яны ж па-ранейшаму вераць у лепшыя дні. І Віктар таксама не губляе надзеі.

Памятае добра, як напярэдадні 2000-га года шмат было размоў са зменай старшыні. Ён таксама прыслухоўваўся да ўсялякага роду крыватолкаў. Кожны ламбавец узважваў, што і як. Адны мовілі, што і пры Пазднякову можна ўзняцца – далі б толькі добрыя крэдыты, іншыя – прытрымліваліся іншага пункту гледжання. Маўляў, стары старшыня ўжо нічога не паверне. Тут патрэбны новыя сілы, свежы струмень. Магчыма яно і так, разважаў Віктар. Перамены патрэбны. Ці ўсё ж залежыць ад старшыні? Тут хоць залатога кінь на іхні калгас, а без фінансавай падтрымкі, без карэнных і радыкальных змен не абыйсціся. І вырашаць сельскагаспадарчую праблему патрэбна на высокім узроўні. Адным махам палеткі не засееш і кароў не накорміш. Патрэбна дэталёвая і разумная праграма. А дзе яе ўзяць? Кажуць, амерыканскія фермеры паўсвету кормяць. Ім там добра, у іх сістэма вякамі адладжана. Ды і зацікаўленасць мусіць куды вышэйшая, чым у іх. Тут можаш лета спіну гнуць, а як да касы дойдзеш, то і выдаваць на рукі няма чаго. Ды і то, заробленыя грошы своечасова не выплочваюць. Вось вам і калектыўнае гаспадаранне...

Дарэмна хто думае, што на вёсцы нічога толкам не бачаць і не разумеюць. Маўляў, працуюць з ранку і да позна, а толку аніякага. Так то яно так, але ж пры жаданні можна і на месцы вырашаць больш-менш станоўча існуючыя праблемы. Толькі тут трэба не на аднаго старшыню спадзявацца, а думаць усім мірам. Мо і парадку будзе больш. Пазднякоў у апошнія гады стараўся сам нярэдка падмяняць спецыялістаў як сярэдняга звяна, так і галоўных. Няпростая гэта справа. Кожны павінен адказваць за свой участак, а ты ўжо, старшыня, пракантралюй, спытай, калі што не так...

Віктар жа шчыраваў на мехдвары і чакаў вясну. Адчуваў сябе апошнім часам добра і чакаў таго моманту, калі зноў зможа сесці за руль трактара. А тут нарэшце адбыўся сход, і калгас узначаліў Павел Паўлавіч Дашкоўскі. Сасваталі з Варатыні. Там доўгі час працаваў галоўным інжынерам. Гэтая вестка прыйшлася Віктару па душы. Як тут ні круці, а асноўны цяжар сёння кладзецца на тэхнічныя сродкі. І калі старшыня сам дэталёва разбіраецца ў тэхніцы, то гэта вельмі добра. Значыць, можна будзе разлічваць на нейкія перамены і ў арганізацыі працы механізатараў. Галоўнае ж, як хацелася ўсім ім, каб старшыня нарэшце зрушыў з мёртвай кропкі вытворчыя праблемы: тут і абнаўленне машынна-трактарнага парку, і забеспячэнне гаручазмазачнымі матэрыяламі і запчасткамі, і дастойная аплата працы і г.д. Але пэўная колькасць людзей, а



*Т.У. Новікава працуе ў Кавалёўскім паштовым аддзяленні. Таццяна Уладзіміраўна – адна з лепшых начальнікаў пошты ў раёне. У многім дзякуючы яе намаганням, чытачы Кавалёўскага сельсавета з'яўляюцца самымі актыўнымі падпісчыкамі нашай газеты.*

**Фота Б. ВАРФАЛАМЕЕВА.**

*Пресс-центр райисполкома сообщает*

# ДЕНЬ ЗА ДНЕМ

В субботу председатель облисполкома М.В. Дражин провел селекторное совещание по вопросам заготовки кормов и подготовки техники к предстоящей уборочной компании.

Были поставлены задачи: до 1 июля скосить сеяные травы, до 15 июля – травы в поймах рек и до 1 июля завершить ремонт зерноуборочных комбайнов, с последующим смотром готовности техники к уборке урожая.

* * *

На базе колхозов имени Мичурина, "Победа", имени Некрасова прошел районный семинар-совещание по итогам работы в животноводстве за май текущего года с участием руководителей, работников соответствующих служб хозяйств района, специалистов райсельхозпрода. На семинаре были рассмотрены следующие вопросы:

1. Роль кормовой лаборатории в заготовке кормов.
2. Подготовка животноводческих помещений к зимовке 2000-2001 года.
3. Выращивание молодняка в летне-пастбищный период.

Итоги семинара подвел председатель райисполкома М.П. Леваков.

* * *

16-17 июня в г.п. Белыничи состоялся областной конкурс военно-патриотической и молодежной песни имени Героя Советского Союза Лени Лорченко. Наш район на нем представлял народный фольклорный ансамбль "Пярэзвы", который отмечен Дипломом 2-й степени. Такой же награды удостоен вокальный дуэт районного Центра культуры и досуга в составе Л. Шевченко и В. Костюкович. Первая как автор и исполнитель получила еще один Диплом.

Поздравляем победителей и желаем дальнейших творческих успехов!

* * *

На прошлой неделе состоялось очередное заседание районного исполнительного комитета, на котором была рассмотрена работа субъектов хозяйствования по расширению и улучшению качества бытовых услуг.

Отмечалось, что за пять месяцев текущего года предприятиями, организациями, хозяйствами района оказано населению бытовых услуг на 107,2 процента, что на 7,2 процента больше в сопоставимых ценах, чем за аналогичный период прошлого года.

Был рассмотрен вопрос о работе райбыткомбината, в связи со сложившимся тяжелым финансовым состоянием предприятия.

Поручено руководителям хозяйств, предприятий, организаций района направить все усилия на расширение и внедрение новых видов оказываемых бытовых услуг населению, поднятие престижа этой сферы.

**ДА УВАГІ ПАДПІСЧЫКАЎ!**

Адпаведна дагаворам, заключаным з рэдакцыямі (выдавецтвамі) пры афармленні падпіскі прадпрыемствы сувязі ажыццяуляюць пасрэдніцкія паслугі па распаўсюджванню і дастауцы, таму за нявыхад, нясвоечасовы выхад з друку газет і часопюауў адказнасць перад падшсчыкамі нясе рэдакцыя (выдавецтва).

Праверце правільнасць афармлення абанемента, на абанеменце павінен быць пастаулен адбітак касавай машыны. Пры афармленні падпіскі (пераадрасоўкі) без касавай машыны на абанеменце ставіцца адбітак каляндарнага штэмпеля аддзялення сувязі. У гэтым выпадку абанемент выдаецца падшсчыку з квітанцыяй аб аплаце кошту падшскі (пераадрасоуи).

Для афармлення падпіскі на газету ці часопіс, а таксама для пераадрасавання выдання бланк абанемента з дастаравачнай картачкай запауняецца падшсчыкам чарніламі, разборліва без скарачэнняў, у адпаведнасці з умовамі каталога.

Запауненне месячных клетак пры пераадрасаванні выданняў, а таксама клеткі «ПВ-МЕСЦА» выкочваецца работнікамі прадпрыемстваў сувязі.

## ДЛЯ СВЕДЕНИЯ ДЕПУТАТОВ РАЙОННОГО СОВЕТА

*28 июня в 11.00 в актовом зале заседаний райисполкома состоится седьмая сессия районного Совета депутатов 23-го созыва с повесткой дня:*

*"Об итогах выполнения районной комплексной целевой программы "Здоровье" и задачах по выполнению районной программы "Здоровье народа".*

*На сессию приглашаются депутаты, руководители отделов, управлений райисполкома, председатели поселкового и сельских Советов депутатов, руководители хозяйств, предприятий, организаций, школ и медучреждений района.*

**ПРЕЗИДИУМ РАЙСОВЕТА.**

*Нарыс*

# СЕНАКОСНАЯ

ў іх ліку і Віктар, добра разумелі, што адным махам нічога не вырашыць. Патрэбен час. Але калі старшыня гаспадар абяцанням, то на яго можна разлічваць, звязваць пэўныя надзеі і спадзяванні. Па тым, як Дашкоўскі ўзяўся за справу Віктар адзначыў для сябе, што гэты чалавек слоў на вецер не кідае. Хаця яму цяпер, як нікому ў калгасе, цяжка. Усе па-ранейшаму патрабуюць, а падтрымкі рэальнай і дзейснай пакуль няма. Адзін толькі Бог ведае, якім напружаным выдаўся рамонтны перыяд. Пасяўная была на носе, а ўпэўненасці ў тым, што тэхніка не падвядзе, не было. Пэўная колькасць агрэгатаў і механізмаў рамантавалася ў горадзе, патрэбна было за іх разлічыцца, а грошай не было. Нерваваўся не толькі старшыня, але і ўвесь механізатарскі корпус. Стараліся на месцы падрыхтавацца, наколькі гэта дазвалялі магчымасці. І ў цэлым атрымалася ўсё нядрэнна. Адсеяліся не горш за іншых. І зялёнае жніво не застала знянацку. Касілкі, прэспадборшчыкі, граблі, іншае начыненне ў асноўным рыхтавалі сваімі сіламі. Віктар у адзін з такіх напружаных момантаў і падыйшоў да старшыні. Старшыня ўжо ведаў, што ў свой час Віктар Шпак быў адным з лепшых механізатараў калгаса, што на яго можна разлічваць, як на сябе асабіста. Ён таксама збіраўся пагаварыць з Віктарам. Але падзей не прыспешваў. Усё ж у чалавека такое сур' ёзнае захворванне.

— Як са здароўем цяпер, усё добра? — пацікавіўся ў сваю чаргу Павел Паўлавіч.

І крыху падумаўшы, прапанаваў.

— Вось што скажу: хутка пачнецца касьба траў... Сенажаці не такія пыльныя... А мне патрэбен на нарыхтоўцы сена чалавек руплівы і гаспадарлівы. Сёлетняя вясна атрымалася засушлівай. Травастоі бедныя... Трэба пастарацца, каб аддача была максімальнай.

— Я зразумеў вас, Павел Паўлавіч, — узрадавана адказаў Віктар. – Не падвяду. Ды і па трактары засумаваў. Вельмі ж хочацца сябе выпрабаваць...

Чамусьці вось цяпер узгадалася тая размова. Віктар саскочыў з кабіны трактара і азірнуўся на сенажаці. Трава ляжала ў валках, а сонца ўзнімалася ўсё вышэй і вышэй. Недзе бліжэй да ляска праклубіў матацыкл, а за ім, метраў гэтак пад трыста, калясіла падвода. Даглядчыкі зноў ехалі за падкормкай. Віктар прысеў на кукішкі і расцёр у руках жменьку свежаскошанай травы. Былой сакавітасці не было. Ды і сама трава выглядала на сонцы падпаленай, крыху пажоўклай. Вось і разганіся! Чалавек поўнасцю залежыць ад прыроды. То сонца пячэ, то дажджы даканаюць... А няхай бы ўсё адпавядала прапорцыям. Кажуць, у той жа самай Амерыцы надвор'е спрыяе фермерам. А таму і ўраджаі здымаюць багатыя. А ў Ламбава ўвесь май чакалі дажджоў. Вось і чэрвень у разгары. Таксама нічым асабліва не парадаваў. А жывёлу карміць трэба. Няхай летам можна жывёліну пракарміць. А зімой? Без трывалай кармавой базы ні малака не надоіш, ні мяса не наросціш. А мяса – малочны цэх фарміруе асноўныя грашовыя паступленні. А калі ёсць фінансы, то і жывецца лягчэй. Гэта ж прапісная ісціна! Толькі дастаюцца гэтыя фінансы вялікімі фізічнымі і маральнымі затратамі. Вось узяць зусім просты прыклад. Для таго, каб выканаць дзённую норму, Віктар павінен укласці ў валкі не менш пяці гектараў сенажацяў. Задача пасільная. Але ж паспрабуй на такой спякоце высядзець у кабіне трактара!? І не толькі. Трэба ж яшчэ сачыць і за тым, як трава косіцца, якія валкі кладуцца, як спраўна рэжа касілка і г.д.

На 15 чэрвеня Віктар Шпак накасіў каля ста тон сена. Дзённую норму перакрываў у паўтара-два разы. Прэтэнзій да яго не было. Гэта адчувалася і па тым, з якім настроем размаўляў з ім старшыня. Цяпер косіць сена людзям, а там, як мяркуе, адправяць на натуральныя лугі. Іх у калгасе не так шмат. І ўсё ж, 60-70 гектараў не перашкодзяць. Не падвяла б толькі тэхніка. А за ім справа не стане. Віктар любіць сваю работу. Праўда, хвароба дае пакрысе аб сабе ведаць. І тады крыху настрой псуецца. Бо думаецца ўсялякае. Але дурныя думкі тут жа адганяе.

Вяртаючыся дамоў позна вечарам, Віктар падміргне жонцы: маўляў, усё добра. Рыхтуй вячэру...

**Якаў АБРАМОВІЧ,**
**калгас "Сцяг камуны".**

# НЕ ДЫМ ВАЙНЫ

*Не дым вайны,*
*А ранішні туман*
*Плыве з лагчыны,*
*Сцелючыся нізка...*
*Радзімы твару*
*Дарагая рыска,*
*Між стромкіх сосмаў –*
*Зорка абеліска.*
*Тут пахаваны*
*Юны партызан.*

*Ён маляваў*
*Звычайным вугальком.*
*А ў тую ноч*
*Атрад паеў з аблогі.*
*Усчаўся бой*
*На ўзлеску, ля дарогі.*
*Хаваўся ў хмары*
*Месяц крутарогі...*
*Юнак не стаў,*
*Як марыў, мастаком.*

*Ён на світанні*
*Паміраў ад ран.*
*Апошні прывід:*
*Ён малы і босы...*
*Казычуць ногі*
*Чэрвеньскія росы...*
*Смяецца мама,*
*Папраўляе косы...*
*А па-над лугам –*
*Ранішні туман.*

*Каму, зязюля,*
*Лічыш ты гады,*
*Ці не яму?*
*Яго схаваў пагорак*
*Пад зоркай,*
*Што з сузор'я вечных зорак.*
*Даўным-даўно*
*Было б яму за сорак,*
*А ён і сёння*
*Гэткі ж малады.*

*У кепачцы,*
*Зусім яшчэ пацан,*
*Глядзіць*
*Патрабавальнымі вачыма:*
*А ты,*
*Што ты зрабіў*
*дзеля Айчыны,*
*Дзеля таго,*
*Каб заўтра плыў з лагчыны*
*Не дым вайны,*
*А ранішні туман?*

**Святлана БАСУМАТРАВА.**



Брестская крепость-герой

*Есть мнение*

# "ЗАВЕЗЕННОЕ" СЕКТАНТСТВО

Я – неверующий. Однако это обстоятельство не мешает мне видеть, чем и как "засеяно" религиозное поле нашего края в непростое для нас время. В числе моих знакомых есть католики с их специфическими взглядами. Конечно же, мне хорошо известно, какую существенную роль играет белорусское православие ныне – в плане объединения славянских народов. Есть субботники и баптисты с их сектовой религиозностью...

Наряду с этим, в республике сейчас функционируют и иные секты, которые принято называть деструктивными. Эти, к несчастью, получают у нас достаточно бурное развитие, что нередко ведет к плачевным результатам. В Борисове мои родственники познакомили меня с молодым человеком, приверженцем "Церкви Христа". Поразила в его суждениях некая жестокость, которая указывала на то, что их единоверцы – люди едва ли не военной дисциплины, за счет чего ряды секты мало подвержены распаду. Многое мне пришлось прочитать и слышать об "Обществе сознания Кришны", об "Обществе Сторожевой Башни", о "Церкви Иисуса Христа святых последних дней..."

Что же некоторые из них представляют собой? Что в них настораживает? Куда ведет их идеология?

Сейчас специалистам хорошо известно, что "Церковь Христа", например, — секта активного действия, тоталитарного склада. Она зародилась в конце семидесятых годов уходящего века в Бостоне. При своем довольно примитивном объяснении христианства ее авторитеты пользуются приемами агрессивного воздействия на личность. Цель здесь одна: подавление мыслительных способностей человека, обработка его в духе собственного вероучения. Главные движущие механизмы этой секты – так называемые наставники, имеющие нескольких учеников, которые в свою очередь являются наставниками для других...

"Общество Сторожевой Башни" (или Свидетели Иеговы), называющие свое учение "истинным", появилось в 70-е годы прошлого века в Америке, а затем интенсивно распространяло свое влияние на людей, живущих во всем мире. Как показывают факты, "Общество Сторожевой Башни" шесть раз предсказывало конец света. Насколько "успешно" – читатель догадывается сам... Вот что проповедует секта: не служи в армии, не принимай участия в выборах, не читай критических выступлений печати по поводу "Общества" и т.д.

"Общество сознания Кришны" возникло в Нью-Йорке в середине шестидесятых годов нынешнего столетия. Основатель его – выходец из Индии – начал внедрять свое учение в среде наркоманов, хиппи и создал из них первоначальное ядро... Кришнаиты поклоняются Кришне, представляя поклоняющихся иным богам идиотами и животными. Соблюдения сектантами строгих правил, оговоренных "избранными", должно привести человека к осознанию, что он в экстазе сливается с Кришной.

Тогда-то он объявляется реализованной душой... Подчинение в секте тоталитарное, достигается оно подавлением личности, ее обезволиванием... Куда может завести человека, привлеченного в секту, я полагаю, — ясно...

В литературе, в печати ( к сожалению, меньше – на телевидении) показываются сотни примеров того, как секты, упомянутые здесь ( и не упомянутые), уводят нашего человека в какие-то чужие нашим православным устоям дебри, отдаляют его от патриотического мышления, от общественной полезности, деформируют его психику... Предостеречь людей от попадания под влияние этих сект – одна из важнейших задач православия, общественности, семьи, школы, всех нас...

**Эдуард ЯНИН, внештатный корреспондент "Трыбуны працы".**

*Внештатный корпункт сообщает*

# БЫТЬ ЛИ СПОРТКОМПЛЕКСУ В ТУГОЛИЦЕ...

Есть в нашем поселке огромное здание в несколько этажей, которое называется спорткомплексом. Во времена, когда ПМК-84 руководил Адам Иванович Гацко, в поселке шло интенсивное строительство. Росли дома, торговый центр, дом культуры, было налажено строительство спортивного комплекса. Машины беспрерывно везли стройматериалы. Словом, работа шла полным ходом. Выросли корпуса, гостиница, трибуны для зрителей, есть и судейская комната. В общем, казалось, что все подготовлено для нормального функционирования этого объекта. Но не суждено было сбыться задуманному.

С уходом из ПМК Гацко здесь началась перестройка, которая все разрушила. Народ не дремал, начал потихоньку разворовывать стройматериалы. Новый директор предприятия В. Дрень организовал охрану, но со временем ее сняли. А ведь в это строительство вложены огромные средства.

В поселке много молодежи, а всерьез заниматься спортом негде. Правда, некоторые ходят в школьный спортзал, но там мало места. А огромный комплекс бездействует. Все упирается в финансы. Вот и думается: может, найдется какой-то состоятельный человек, который не позволит окончательно загубить хорошую идею. И, благодаря добрым людям, будут в Туголице свои спортсмены. Ведь кому как не нам с вами думать о здоровье и полезном времяпрепровождении наших детей.

**В. КРИЧКО, п. Туголица.**

*К сведению абитуриентов*

# КОМУ РАБОТАТЬ НА СЕЛЕ?

## О ЦЕЛЕВОЙ КОНТРАКТНОЙ ПОДГОТОВКЕ СПЕЦИАЛИСТОВ

Целевая подготовка специалистов сельскохозяйственного профиля производится для обеспечения необходимыми кадрами колхозов, совхозов и других сельскохозяйственных предприятий. В соответствии с Постановлением Совета Министров РБ от 28 марта 2000 г прием на целевую подготовку осуществляется из числа лиц, имеющих в документе о среднем образовании по профильным предметам вступительных экзаменов оценки "4" и "5" и проживающих в сельской местности.

Основанием для участия абитуриента в конкурсе на целевое место является трехсторонний договор установленного образца, который заключается между гражданином республики Беларусь, учебным заведением и заказчиком. Заказчиком для поступающих в Высшие сельскохозяйственные учебные заведения является Комитет по сельскому хозяйству и продовольствию Могилевского облисполкома, а для поступающих в средние специальные учебные заведения – управление сельского хозяйства и продовольствия Бобруйского райисполкома.

Кроме того, для лиц в возрасте до 18 лет (кроме лиц, объявленных в установленном порядке полностью дееспособными) необходимо наличие письменного согласия одного из родителей.

Зачисление лиц, заключивших договор и успешно прошедших конкурс, оформляется приказом по учебному заведению на основании решения приемной комиссии.

В случае появления вакантных целевых мест по решению сторон договоры могут заключаться с лицами, успешно сдавшими вступительные экзамены по таким же предметам в данное или в другое государственное высшее учебное заведение.

Лица, обучающиеся по договору, имеют равные обязанности и пользуются равными правами с лицами, зачисленными по общему конкурсу. После окончания учебного заведения они направляются на работу в соответствии с договором.

Согласно разнарядке Министерства сельского хозяйства и продовольствия Республики Беларусь для жителей Могилевской области утверждены целевые места в следующих высших и средних специальных учебных заведениях: Белорусская сельскохозяйственная академия, Белорусский аграрный технический университет, Витебская государственная академия ветеринарной медицины, Гродненский сельскохозяйственный институт, Кличевский аграрно-технический колледж, Жиличский сельскохозяйственный колледж, Климовичский сельскохозяйственный техникум, Бобруйский сельскохозяйственный техникум, Пинский техникум мясной и молочной промышленности, Минский аграрно-коммерческий колледж.

Однако число мест целевого приема ограничено контрольными цифрами, утвержденными Минсельхозпродом. И выдаваться целевые договора будут с учетом потребностей в специалистах сельскохозяйственного профиля в колхозах и совхозах нашего района.

По всем вопросам, связанным с выдачей целевых договоров, необходимо обращаться в управление сельского хозяйства и продовольствия Бобруйского райисполкома.

**С. КУРНОСОВА,**
**главный специалист по кадрам райсельхозпрода.**

*(Окончание. Начало в № 47).*

*На темы морали*

# БЕЗГРЕШНЫЕ

— Ну что – "не надо, не надо"? — грубо хохотнул он. – Ты что, не за этим сюда пришла? Тоже мне, целка выискалась. Забыла, что ли...

О чем надо было не забывать, Света уже толком не расслышала. Да и какие тут еще нужны разговоры? Разгоряченный спиртным и ее слабыми протестами, Вован сорвал с девушки остатки одежды и грубо овладел ею. Насытившись, покосился на обиженную Свету:

— Чего надулась? Что, маловато показалось? Так мы сейчас еще по-другому попробуем...

У насильника, воспитанного на видеопорнухе, оказалась весьма богатая фантазия. Но вскоре Вован, сидя рядом с плачущей девчонкой, почувствовал, что вместе с хмелем и страстью уверенность в своих мужских достоинствах тоже начинает его покидать. Черт, и дернуло же его связаться... А что, если кому пожалуется? Даром, что раньше с ним встречалась... Наверное, не стоило так извращаться. А может, все обойдется? Особенно если в этом будет замешан не он один?.. Вован положил руку на плечо девушки:

— Ты это... Слышишь? Не плачь. Ты посиди здесь, а я сейчас вернусь. Поговорим...

Оставив Светлану утешаться в одиночестве (не считать же, в самом деле, собеседником мертвецки пьяного Стаса), Вован вернулся в дом. Здесь он застал лица те же, действие второе. Кто-то пьет, кто-то спит, кто-то в карты играет. Для виду немного поболтал с честной компанией, стараясь казаться спокойным. В дверях комнаты показался заспанный Сергей Поздняков:

— Вован, тебе чего?

— Закурить зашел, — ответил тот. – Может, выйдем на веранду? Поговорить надо.

Как только двери за ними закрылись, Вовка перешел на конспиративный шепоток:

— Слушай, Серега, у тебя там в летней кухне Светка... отдыхает. Может, хочешь к ней зайти?

— Это еще зачем? — не сообразил спросонья Сергей.

— Да проснись ты наконец! Она уже это... на все готова... Грех не попользоваться. Все равно ж твоя Оксана спит.

В хмельной голове Сергея мысли бежали не слишком быстро, но все же главное он сообразил:

— А если она потом в ментовку пойдет?

— Кто, она? — возмутился Вован. – Эта шлюха? Пусть попробует только. Скажем: сама всем предлагала. Да тебе же и 18-ти еще нет, так что сама может попасть под суд.

Забыв о сомнениях, Поздняков решительно направился к летней кухне. Желание участвовать в дальнейших событиях у Вовки начисто испарилось, и он спокойно пошел домой. К бабушке, спать пора.

А Серега, взволнованный заманчивым рассказом друга, уже не считал нужным соблюдать хотя бы видимость приличия в отношении Светланы. Погасив ее попытки выйти на улицу тяжеловесной оплеухой, толкнул девушку на кровать:

— Учти, сука, вякнешь – задавлю. Мы с такими не церемонимся.

Перепуганная девушка еще пыталась спорить, но следующая пощечина ее совершенно оглушила. Света попробовала позвать на помощь не вовремя проснувшегося Сташевского, но тот и не подумал вставать с дивана, с интересом наблюдая за развитием событий. Он тоже считал себя неплохим знатоком порнографии. Но ведь одно дело – кино, а тут все вживую... А Поздняков тем временем старался реализовать все, что только подсказывало ему развращенное воображение. Не беспокоясь о чувствах жертвы, удовлетворил похоть всеми возможными способами. Светлана уже не сопротивлялась, надеясь только на скорейшее окончание экзекуции. Наконец натешившись, Поздняков достал из кармана ключи от летней кухни:

— Я вас тут закрою, голубки... Чтоб никто не побеспокоил. – Он еще раз окинул Светлану презрительным взглядом. – Но если вздумаете стучать или орать...

Вид его внушительной мускулатуры убедил девушку в невозможности побега гораздо быстрее, чем скрежет ключа и решетки на окнах. Решив не искушать судьбу, она задремала рядом со Сташевским.

Их разбудил свет, бьющий из окна.

— Может, все-таки попробуем постучать? — робко предложила Светлана. – А то Серый, может, и забыл про нас? А как мы выйдем отсюда?

Поздняков в это время, просыпаясь, размышлял о событиях минувшей ночи. Черт бы побрал Вовку вместе с его девкой. Не столько того удовольствия получил, а с женой разругались. Оскорбленная Оксана убежала на дизель чуть ли не среди ночи. Едва различимый стук во дворе напомнил ему, что кое-кто из гостей все еще здесь. Храпевший на соседней кровати Витька Панкратов тоже заворочался:

— Слышь, Серый, кто это там?

Сергей вышел и через несколько минут вернулся, ведя за руку заспанную Светлану. Следом, держась за больную голову, двигался Сташевский. Уложив их на кровати, Поздняков задумался. Отпустить эту девку? Так еще крик поднимет. А, была-не-была, раз уж она все равно здесь... Не стесняясь присутствия похмельных друзей, он снова стянул с нее одежду...

Дальше события развивались по сюжету, который нормальный человек осмыслить, наверное, не в состоянии: еще раз удовлетворив свою похоть, Поздняков повел Панкратова... к бабушке, чтобы позавтракать. А Сташевского со Светланой снова запер на ключ. Пользуясь его отсутствием, Стас тоже хотел было попользоваться дармовыми ласками, но здоровье, как говорится, подвело. Зато сам он не подвел друга: не позволил девушке удрать через окно. Вернувшись, Поздняков снова занимался любовью со Светланой, не обращая внимания, видят ли это его друзья. А потом все четверо прилегли на кровать, мирно беседуя ни о чем.

По-моему, любому нормальному человеку такой ход событий покажется совершенно невероятным. Но для наших юных героев – видно, дело привычное, что тут такого? Кто-то завтракает, кто-то отдыхает, кто-то здесь же любовью занимается... Что тут удивительного? Обычные события обычной жизни.

Наконец Светлана, обидевшись на какое-то похабное замечание в свой адрес, видимо, вспомнила, что она во всей этой истории – пострадавшая, и схватив в охапку свою одежду, бросилась к дверям.

Ее никто не задерживал. Зачем? Эта игрушка уже наскучила, пусть уходит.

Увидев ее днем на перроне, Витька Панкратов заговорщицки подмигнул Позднякову:

— Ну как, чудно время провели?

## СПОРНОЕ ДЕЛО

Заявление об изнасиловании Светлана Кузнецова написала через два дня после описанных событий. Следствие длилось более полугода. За это время Светик успела изменить свои показания таким образом, что во всех ее несчастьях оказался всецело виновен Сергей Поздняков. Дескать, с Володей Рачинским они были друзьями, и вся любовь – "по согласию". А вот потом, когда Володя на минутку отвернулся, на нее зверски набросился Поздняков, и насиловал как в естественной, так и в извращенной форме, и избивал, и угрожал, и не пускал... Возможно, такая перемена в показаниях объяснялась тем, что за этот "новый вариант" Светлана получила от родителей своего одноразового рыцаря некоторую сумму в "зеленых". Правда, об этом стало известно в прокуратуре, и деньги были конфискованы.

Но уголовное дело так и осталось спорным до самого приговора суда. С одной стороны – есть заявление потерпевшей, есть свидетели. С другой – никаких телесных повреждений у Светланы не обнаружено, да и свидетели свои показания тоже меняют подобно грязному белью. Где же истина? И было ли изнасилование? Может быть, сама же Светочка все это и затеяла в надежде подзаработать? И кто вообще жертва в этой истории?

Не хочется говорить плохо о молодежи в целом, но относительно конкретно этой компании молодых людей размышления возникают невеселые. И выводы примерно такие: слишком много свободного времени и спиртных напитков. Слишком расплывчаты и неопределенны понятия о морали. Прямо безгрешные какие-то юноши и девушки: им, похоже, и в голову не приходит, что и насилие, и шантаж – вообще-то поступки нехорошие. В Уголовном Кодексе они упоминаются рядом с приличными сроками.

Безгрешные молодые люди... Анестезия морали, атрофия совести. Как будто все они выросли не в семьях, а в инкубаторе, где о нравственности и уголовном праве им никто никогда не рассказывал.

За "ошибку молодости" Рачинский и Поздняков понесли минимальное наказание: районный суд признал их виновными в изнасиловании, назначив каждому по 3 года лишения свободы с отсрочкой приговора на 2 года. Обвиняемые освобождены из-под стражи в зале суда.

Дружной толпой все участники процесса ринулись на улицу. Если за 2 года ничего не накуролесят, значит, пронесло.

## КОММЕНТАРИЙ ЮРИСТА:

— Все участники процесса очень положительно характеризуются по месту учебы, месту жительства. Во многом именно это обстоятельство дало возможность вынести приговор, снисходительный к осужденным. Кроме того, есть такая категория людей, которая своим поведением провоцирует преступников, и Кузнецова похожа именно на такую жертву. Никаких телесных повреждений, свидетельствующих о том, что над ней совершено насилие, обнаружено не было. А после этого она меняет показания, по сути, начинает шантажировать своих "насильников".

Здесь вопрос даже не в преступлении, а в отсутствии представлений о морали. Обратите внимание на последовательность событий: в электричке молодые люди пьют, на даче – тоже, потом пьют в Доме культуры, потом – снова на даче. Отважная девица не задумываясь идет что-то праздновать с полупьяной компанией полузнакомых людей. Не удивительно то, чем это закончилось. Можно удивляться, что в результате на скамье подсудимых оказались только 2 человека, а не все участники веселого мероприятия.

*Данная публикация представляет собой авторскую версию событий и не претендует на абсолютную достоверность. Фамилии действующих лиц изменены.*

**Н. САВИЦКАЯ.**

*Невероятно, но факт*

# "ИЗБИЕНИЕ МЛАДЕНЦЕВ" ДЛИЛОСЬ РОВНО СУТКИ

НАЧАЛОСЬ все в Калинковичах. 6 июня этого года в 17.45 3-летняя девочка выскочила на дорогу и была сбита машиной. Умерла на месте. Через 10 минут, в Новобелице, попав под машину, погиб первоклассник. Через несколько часов – в ночь на 7 июня – в Речице из окна третьего этажа выпала и разбилась 4-летняя девочка. В 8.00 в деревне Столпня Рогачевского района бабушка находит мертвой полуторагодовалую внучку. Предположительно, девочка вылезла из постели и задохнулась, застряв между кроватью и швейной машинкой. Еще через 40 минут с проломленной головой в мозырскую больницу попадает 15-летняя школьница – с балкона восьмого этажа ей на голову сбросил кирпич второклассник. Вообще-то мальчик метил в какого-то своего знакомого, с которым до этого пререкался...

Ближе к вечеру в Еремино гомельский второклассник, гостивший у бабушки, падает с велосипеда, ударяется головой о бетон и умирает.

"Избиение младенцев" началось в Калинковичах, прокатилось по Гомельской области и в Калинковичах же ровно через сутки закончилось. В 18.10 в Калинковичское травмотологическое отделение доставили 16-летнего парня, у которого были оторваны 3 пальца – результат взрыва баллончика к сифону, умело снаряженного серными головками. Точное время взрыва не зафиксировано, но ориентировочно – где-то в 17.45... Не многовато ли совпадений?

**P.S.** *Примечательно, что ни в предыдущие, ни в последующие сутки не отмечено ни одного ЧП с участием детей и подростков.*

**"АИФ".**



*Лето. Отдых. Цветы полевые.*

**Фото Д. МЯКИНА.**

# ЗАПОМНИТЕ – ПРИГОДИТСЯ

Запах масляной краски держится обычно очень долго. Если же после ремонта поставить в помещении емкости с соленой водой, запах исчезнет. Можно 2-3 дня поддержать в комнате ведро с холодной водой.

* * *

Веники становятся прочными и не ломаются, если их предварительно замочить на 2-3 ч в горячей подсоленной воде, а после каждого употребления мыть горячей водой и высушивать в висячем положении. Если веник растрепался, подержите его несколько минут над кастрюлей с кипящей водой, и он станет как новый. Чтобы веник дольше служил, нужно перевязать его в нижней части бечевкой и натянуть на него капроновый чулок, привязав в верхней части к венику.

* * *

Чтобы вдеть капроновую нить в ушко иголки, надо скрутить ее обычной ниткой. Шерстяную нитку легко вдеть в ушко иголки, если конец смазать мылом.

* * *

Иголки, булавки, спицы не будут ржаветь, если в коробку, где они хранятся, насыпать немного муки. Если ржавчина все же проступила, нужно воткнуть иголки на некоторое время в мыло – они станут чистыми.

* * *

Если прикрепить небольшой магнит ко дну металлической коробки, где хранятся иголки и булавки, то они никогда не рассыплются.


**Бабруйская раённая газета "Трыбуна ПРАЦЫ"**
ЗАСНАВАЛЬНІКІ: Бабруйскі раённы выканаўчы камітэт. Раённы Савет дэпутатаў. Працоўны калектыў рэдакцыі.
ІНДЭКС 64092. РЭГІСТРАЦЫЙНЫ № 661.

АДРАС РЭДАКЦЫІ: 213800, г. Бабруйск, вул. К. Лібкнехта, 49.

ТЭЛЕФОНЫ: Рэдактара – 7-34-75; адказнага сакратара і аддзела пісьмаў – 2-80-33; аддзела эканомікі і сельскага жыцця – 7-83-36; аддзела сацыяльных праблем – 2-47-02; бухгалтэрыі і аддзела рэкламы – 7-49-24.





Газета аддрукавана ў друкарні імя Непагодзіна. 213800, г. Бабруйск, вул. Сацыялістычная, 103. 7-32-05.
Нумар падпісаны ў друк 20.06.2000г. у 16-00.
ІНДЭКС 64092. ЗАКАЗ 2640. ТЫРАЖ 3000.

*Рэдактар Мікалай ДАВІДОВІЧ.*